№ 60 (3903)

5 жніўня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Стаць падпісчыкам «Народнай Волі» ніколі не позна

*Учора ў рэдакцыю завіталі некалькі чалавек з адной і той жа просьбай: можна набыць першы жнівеньскі нумар газеты?*

*Нехта хварэў і, знаходзячыся ў шпіталі, не змог працягнуць падпіску, некаторыя былі ў адпачынку за межамі краіны і ўзгадалі пра газету, калі было позна ісці на пошту... Адным словам, па той ці іншай прычыне многія людзі засталіся ў жніўні без "Народнай Волі".*

*Вядома ж, рэдакцыя пастараецца дапамагчы ўсім, хто хоча рэгулярна чытаць сваю любімую газету. Але пры гэтым заўважым: стаць падпісчыкам "Народнай Волі" ніколі не позна. У любы дзень можна завітаць у любое паштовае аддзяленне і аформіць падпіску на наступны і далейшыя месяцы. Будзем разам!*

**Вы з — «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

СПЁКА...

# З-за засухі ў Беларусі можа знізіцца ўраджай гародніны

*Глебавая і атмасферная засуха ў Беларусі адбілася на стане сельскагаспадарчых культур, асабліва трывожна за будучы ўраджай цукровых буракоў.*



*"Вільгаці на палях недастаткова, за ноч расліны аднавіцца не паспяваюць,* — цытуе interfax.by намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі **Уладзіміра Гракуна**. — *Асабліва цяжкая сітуацыя ў Брэсцкай вобласці. Пацярпелі тысячы гектараў кукурузы, бульбы, буракоў. Няма такіх установак, каб паліваць гэтыя плошчы. Аасабліва трывожна за будучы ўраджай цукровых буракоў, хоць да засухі ён абяцаў быць на 57% вышэй за мінулагодні".*

Магчымасці арашэння абмежаваны, таму што беларускія рэкі з-за засухі таксама змялелі. "*Усюды, дзе можна, вада падаецца, але ўзровень вады ў рэках нізкі, і гэта можна зрабіць не на ўсіх плошчах",* — сказаў Гракун.

З-за глебавай і атмасфернай засухі месцамі пачалося завяданне бацвіння бульбы, цукровых буракоў, адзначаецца пажаўценне і скручванне лісця кукурузы. У сувязі з захаваннем гарачага і ў асноўным сухога надвор'я засуха можа ўзмацніцца, стан сельскагаспадарчых культур будзе пагаршацца.

ТЫМ ЧАСАМ

## Спякота не паўплывала на колькасць выклікаў «хуткай»

*"У сярэднім у будні паступае 1300—1500 выклікаў, што не перавышае сярэднюю нагрузку для гэтага часу года,* — цытуе tut.by спецыялістаў Мінскай гарадской станцыі хуткай медыцынскай дапамогі. — *У выхадныя колькасць выклікаў таксама знаходзілася ў межах нормы — у суботу медыкі прынялі 1298 зваротаў, у нядзелю — крыху больш за 1400".*

Пры гэтым колькасць выклікаў, звязаных з цеплавымі і сонечнымі ўдарамі, вагалася ад 0 да 6 у суткі.

*"Можна адзначыць, што мінчукі ўжо вывучылі рэкамендацыі, таму берагуць сябе і не даводзяць справу да выкліку "хуткай",* — канстатавалі медыкі.

КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

*Каб лягчэй пераносіць гарачае надвор'е, спецыялісты раяць выконваць некалькі асноўных правілаў.*

Аддаваць перавагу вопратцы светлых тонаў з натуральных тканін, па магчымасці абмяжоўваць час знаходжання на паўдзённым сонцы. Тым, хто знаходзіцца ў гэты час на вуліцы, рэкамендуецца выкарыстоўваць сонцаахоўныя сродкі, абавязкова апранаць галаўны ўбор. Адпраўляючыся на вуліцу, не варта выпускаць магчымасць адпачыць у цяністым скверы або проста зайсці ў прахалоднае памяшканне, напрыклад краму. Гэта дапаможа пазбегнуць перагрэву.

У спякоту неабходна адмовіцца ад ужывання алкаголю і кавы, салодкіх напояў і аддаць перавагу мінеральнай або пітной вадзе, узвару з сухафруктаў. У гарачыя дні рэкамендуецца выпіваць каля 2,5—3 л вадкасці, але невялікімі порцыямі. Прычым напоі не павінны быць халоднымі, паколькі гэта можа стаць штуршком да ўзнікнення ангіны або абвастрэння хранічнага танзіліту.

(Працяг тэмы — на 2-й стар.)

ІНІЦЫЯТЫВА

## Падатак на дададзеную вартасць могуць павялічыць да 22%

*Такія змены могуць адбыцца ўжо з наступнага года.*

Паводле інфармацыі БелаПАН, адпаведная прапанова ўнесена на разгляд урада. Падатак на дададзеную вартасць, які цяпер роўны 20%, фарміруе трэць бюджэтных паступленняў Беларусі.

*"Пытанне пра павелічэнне ПДВ разглядалася ў ліпені на пасяджэнні Савета міністраў",* — паведаміў БелаПАН эксперт па пытаннях падатковай палітыкі, які браў удзел ва ўрадавым пасяджэнні.

Ёсць звесткі, што прапанова аб павелічэнні стаўкі падатку на дададзеную вартасць ужо прысутнічае ў законапраекце аб унясенні змен у Падатковы кодэкс, якія могуць набыць моц з 2015 года.

Беларускія бізнес-саюзы лічаць, што павелічэнне ПДВ адмоўна адаб'ецца на эканамічнай прывабнасці Беларусі ў рамках Мытнага саюза. Нагадаем, у Расіі, якая ўваходзіць у Мытны саюз, стаўка ПДВ складае 18%, у Казахстане — 12%.

Разам з павелічэннем ПДВ прапануецца ў 2015 годзе знізіць стаўку падатку на прыбытак з цяперашніх 18% да 15%.

ПАРАЎНАЕМ!

## Заробкі: у нас і ў іх

*(па выніках чэрвеня ў доларавым эквіваленце)*




БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ!

## Праезд у Мінску падаражэе з 9 жніўня

*Дзяржаўнае прадпрыемства "Минсктранс" 9 жніўня павысіць кошт праезду ў сталічным грамадскім транспарце да 4 тысяч рублёў за адну паездку.*

*"Мы плануем павышэнне з 9 жніўня. Нам патрэбны час, каб развезці білетную прадукцыю",* — паведаміла БелаПАН намеснік генеральнага дырэктара прадпрыемства **Ірына Якубоўская**.

Такім чынам, кошт праезду павысіцца на 9%. Папярэдняе павышэнне было 1 красавіка 2014 года — да 3 тысяч 700 рублёў за адну паездку.

БЛИЦ

# Как вы спасаетесь от жары?



*В воздухе пахнет жареным... Это тлеют на 33-градусном солнцепеке наши бренные головы и тела. Но жить-то надо, и работать надо. Несмотря на оранжевый уровень опасности и чаще всего нежелание администрации укорачивать рабочий день, вообще идти на какие-либо уступки, чтобы облегчить условия труда наемным работникам. Как уберечься от жары?*

*"Народная Воля" спросила об этом не только наших соотечественников, но и жителей южного зарубежья — все-таки люди с бóльшим, чем у нас, опытом.*

**Оксана Волкова, солистка Национального академического Большого театр оперы и балета:**

— От жары я спасаюсь у водоемов за городом, а также устраивая сквозняки в своей квартире. Выходить на улицу нет никакого желания, кондиционер в машине сломался, чинить нет времени. Единственный выход — холодный душ несколько раз в день...

**Андраш Фараго, дипломат, Будапешт, Венгрия:**

— Надо забыть на это время ваше любимое развлечение — шашлык. Я, например, ем сейчас больше фруктов и зеленых овощей, а не тяжелых мясных блюд со специями. В квартире всегда плотно закрываю занавески. Часто мочу голову, на улицу выхожу только со шляпой на голове или мокрым шарфом на шее и даже на плечах.

**Нина Маркевич, жительница хутора Бельково Сморгонского района:**

— А чего от нее, жары, спасаться? Работать надо! Вставать в полпятого утра и работать. Ну, косынку на голову, конечно, повязать. А в полдень идти отдыхать в дом, под крышу.

**Валентина Шаронело, банщица SPA-центра спортивно-оздоровительного комплекса "Олимпийский":**

— На работе спасаемся дедовским методом: делаем сквознячок! И воду пьем — много воды. А дома на ночь открываем окна, чтобы напустить холода, а потом сберечь его на день. Вот какие времена наступили: холод бережем...

**Элеонора Гороховская, экскурсовод, Иерусалим, Израиль:**

— С температурой мы боремся просто — включаем кондиционеры. Ну, а кто на жаре работает (экскурсоводы) — так для дела можно и потерпеть.

**Екатерина Солодкая, заместитель директора по развитию ресторана "Фальконе":**

— В ресторане все помещения кондиционированы, для поваров созданы прекрасные условия работы, потому что приготовление еды — творчество. У нас работают высокие профессионалы, как наш шеф итальянец Доменико Акампора. А человеческий ресурс надо беречь!

**Дмитрий Шаметько, мастер-автомеханик СТО "Спас":**

— Ну как спасешься от сумасшедшей жары на СТО? Никак. Обливаемся водой. Делаем сквозняки, чтобы выжить. Зарабатывать-то надо...

**Елена МОЛОЧКО.**

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Своя игра

Бывший глава концерна "Белнефтехим" Игорь Жилин освобожден от уголовной ответственности. *"Он нанес большой ущерб государству — это плохо*, — заявил Александр Лукашенко на совещании о совершенствовании законодательства по борьбе с коррупцией. — *Компенсировал — не надо его хватать и тащить за решетку".*

Интересно получается: имел человек высокую должность, приличную зарплату, но при этом бессовестно воровал у родного государства, а когда его поймали за руку, вернул наворованное и без суда и следствия оказался на свободе. *"Это ущерб. Но он был обсчитан, умножен на три. Заплатил — до свидания",* — пояснил Александр Лукашенко.

Лично мне интересно: а сколько денег вернул господин Жилин? Сколько успел наворовать за пару лет работы на посту руководителя государственного концерна? Кто считал эти суммы, кто определял масштабы нанесенного ущерба, если не было судебного разбирательства? И почему, в конце концов, он не должен нести за это уголовной ответственности? Потому что вернул в три раза больше? Так, может, возвращал из тех денег, которые украл раньше? В "Белнефтехим" Игорь Жилин пришел не с улицы, до назначения на пост главы концерна работал директором "Гродно Азот". Это не обвинение в адрес Жилина. Но, согласитесь, подобные мысли могут возникнуть у любого из нас. Потому что если в стране создана система, при которой проворовавшийся чиновник может легко уйти от уголовной ответственности, то почему бы ему, чиновнику, этим не воспользоваться? Ведь можно воровать и не попасться, а если вдруг обнаружится, что положил себе в карман несколько десятков, сотен тысяч, а, возможно, и миллионов чужих (государственных) долларов, ничего страшного не произойдет: вернул — и свободен.

Но если вдуматься: речь идет о чиновниках, которым государство доверяет высокие посты. Оно платит им хорошие зарплаты, гарантирует пенсии госслужащих, предоставляет другие бонусы, о которых не то что работяги, академики мечтать не могут, а значит, и ответственность у чиновников должна быть выше. А они государство дискредитируют, и при этом легко могут ускользнуть от ответственности. А вот если колхозница украдет мешок картошки или правозащитника обвинят в том, что он не заплатил государству налоги с тех денег, которые предназначались на оказание помощи ни в чем не виновным людям, суды не скупятся на приговоры. Помните, как судили руководителя ликвидированного правозащитного центра "Вясна" Алеся Беляцкого? По статье, которую ему инкриминировали, можно было ограничиться "химией", а ему дали 4,5 года тюрьмы. И это при том, что друзья правозащитника, пока еще приговор не вступил в законную силу, собрали и вернули всю сумму, которую, как посчитал суд, Беляцкий не заплатил государству.

Почему же так получается: по Конституции мы все равны перед законом, а в реальной жизни — нет?

Недавно в Лельчицах состоялся показательный процесс над заведующей терапевтическим отделением местной больницы. Ее обвинили в том, что она выписывала липовые больничные и брала за это вознаграждения. 52-летнюю женщину осудили на 3,5 года тюрьмы с конфискацией имущества. Любопытно, ей кто-нибудь до судебного разбирательства предложил вернуть нечестно заработанное в обмен на свободу? Полтора килограмма сала, коробку конфет — именно такие вознаграждения получала доктор от пациентов. Самая крупная взятка, которую ей инкриминировали, — 700 тысяч рублей. Помимо тюремного срока и конфискации, суд обязал доктора выплатить 3 миллиона 586 тысяч рублей в доход государства — столько, как было установлено, она заработала на взятках. Если умножить эту сумму на три, получится 10 миллионов 758 тысяч. Наверное, и вину бы свою терапевт признала, и деньги бы эти выплатила, только чтобы не оказаться за решеткой.

Говорят, что только разговоры жены Игоря Жилина по телефону обошлись "Белнефтехиму" в 10 тысяч долларов!

Но терапевт из Лельчицкой райбольницы — не глава "Белнефтехима" Игорь Жилин и не управляющий делами президента Галина Журавкова, которая в свое время ушла от наказания, хотя обманула государство на несколько миллионов долларов. После этого случая в стране и стартовала кампания прощения чиновников-воров...

На мой взгляд, эту порочную систему надо искоренять, выжигать каленым железом. Потому что она провоцирует, подталкивает чиновников к воровству. И если в стране действительно решили совершенствовать законодательство по борьбе с коррупцией, а не в очередной раз вести популистские разговоры, начинать надо с отмены этой узаконенной льготы для высокопоставленных коррупционеров. Но на совещании президента как раз-то звучало обратное: вернете деньги — до свидания!

Хотя, если разобраться, не все проворовавшиеся чиновники так легко уходят от наказания. Вот только несколько последних громких уголовных дел: за взятку 14 лет колонии получил бывший заместитель председателя Мингорисполкома Игорь Васильев, к 6 годам колонии усиленного режима приговорен бывший заместитель генпрокурора Александр Архипов. До 10 лет лишения свободы грозит экс-директору "Борисовдрева" за превышение служебных полномочий, в результате чего предприятию был нанесен ущерб на 2 млн долларов; задержаны директор Слуцкого мясокомбината и его заместитель. Не смогли откупиться? Или все это игра, которую вот уже 20 лет умело ведет белорусский правитель? Своих, приближенных, как блудных детей, президент прощает, требуя лишь вернуть наворованное. А остальных — публично "казнят". Надо же народу показывать, какая в стране идет беспощадная борьба с коррупцией.

ГАРЫМ!



# Вогненнае лета

*У спякотнае лета механізатары змагаюцца за ўраджай, а ратавальнікі — за камбайны, лясы і палі.*

## Толькі за суткі гарэлі 4 камбайны

Калі на вуліцы — пад трыццаць пяць градусаў цяпла, да бяды — адзін крок. Таму апошнім часам стужка навін службы МНС больш нагадвае ваенную хроніку...

У Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці падчас рамонту электраабсталявання загарэўся камбайн "Палессе", які належыць СПК "Чырвоны барацьбіт". Агнём пашкоджаны матор, кабіна і колы.

У Салігорскім раёне Мінскай вобласці загарэлася зернеўборачная машына "Дон" (належыць ААТ "Вікторыя-Агра"), якая рухалася да месца правядзення работ. Пажар пастараліся патушыць камбайнер і рабочы.

У той жа час стала вядома, што гарэлі камбайны ў вёсках Ігнаткоўцы Лідскага раёна і Караваева Пухавіцкага раёна.

Усе гэтыя чатыры загаранні, паводле паведамлення МНС, адбыліся толькі за апошнія суткі.

## Што згарыць, то не згніе?

Наносіць агонь удар пад дых гаспадаркам не толькі ў галіне механізацыі. Вось, напрыклад, на мінулым тыдні ратавальнікам паступіла паведамленнне аб пажары на сенаскладзе ў вёсцы Каўняцін Пінскага раёна. У выніку здарэння згарэлі і дах, і 60 тон сена.

24 ліпеня ў Столінскім раёне загарэлася поле з зернавымі каля вёскі Сямігосцічы. Агнём знішчана каля 10 гектараў азімай пшаніцы. Таксама гарэла поле і пад Мінскам, так што многія мінчане нават маглі ўбачыць вялікія клубы дыму. Праўда, ратавальнікі ўдакладнілі: гарэла не поле са збожжам, а ржышча.

## Ахвяры

Днём 1 жніўня загарэлася ржышча на полі СПС "Гігант" каля вёскі Чырвоная Дуброва Бабруйскага раёна. Калі ратавальнікі прыехалі на месца, агонь ахапіў тэрыторыю на плошчы каля паўтара гектара.

Пажар самастойна спрабаваў патушыць 76-гадовы жыхар Бабруйска, але атрымаў сур'ёзныя апёкі. Праз некалькі гадзін пенсіянер памёр у бальніцы.

Паводле папярэдніх звестак, прычынай смерці стала неасцярожнае выпальванне травы.

## *Віталь НАВІЦКІ:* «У пажарах вінаваты перш за ўсё чалавек...»

*"Народная Воля" пацікавілася ў прэс-сакратара Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі Віталя Навіцкага, колькі ўсяго надзвычайных здарэнняў з тэхнікай і пажараў адбылося за час уборачнай кампаніі.*

— Такіх аператыўных звестак няма, — адказвае суразмоўца. — Дзесьці камбайн загарэўся на полі, недзе — у майстэрні, дзе яго рамантавалі. І як два гэтыя выпадкі класіфікаваць? За час уборачнай пацярпелі ад агню, можа быць, дзесяць камбайнаў, аднак жа па розных прычынах.

Што тычыцца нейкай статыстыкі па пажарах на палях, то пакуль лічбы абагульняюцца. Адно можна сказаць: спёка, безумоўна, не апошні фактар падчас пажару, але ў іх перш за ўсё вінаваты чалавек.

### АФІЦЫЙНА

У МНС падкрэсліваюць, што ў спякотнае надвор'е загаранне травы можа пагражаць жыццю чалавека.

Акрамя таго, у сувязі з анамальнай спёкай зараз грамадзянам і юрыдычным асобам забаронена знаходзіцца ў лясах. Адпаведна ў такі перыяд развядзенне вогнішчаў у лясах і на тарфяніках забаронена.

Механізатарам не варта забываць, што спраўныя сродкі тушэння пажараў дазволяць ліквідаваць пажар на пачатковай стадыі з мінімальнымі наступствамі, а якаснае і своечасовае абслугоўванне тэхнікі папярэдзіць надзвычайныя сітуацыі.

Работнікі інспекцый нагляду і прафілактыкі МНС зараз пераведзены на ўзмоцнены варыянт нясення службы. Асноўная ўвага засяроджана на аказанні дапамогі ў забеспячэнні пажарнай бяспекі аб'ектаў, звязаных з уборкай, захоўваннем і перапрацоўкай ураджаю, торфапрадпрыемстваў, баз адпачынку, дзіцячых аздараўленчых лагераў, садаводчых таварыстваў і населеных пунктаў, якія знаходзяцца побач з лясной зонай альбо торфамасівамі.

Ратавальнікі яшчэ раз нагадваюць: будзьце вельмі пільнымі ў спёку! Банальныя словы, але яны могуць выратаваць жыццё...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЭГІЁНЫ

## *СМС са скаргай для чыноўніка*

*Жыхары Чыгуначнага раёна Гомеля змогуць выказаць свае скаргі чыноўнікам па SMS. Адміністрацыя раёна абвясціла аб пачатку працы спецыяльнай лініі SMS-паведамленняў для зваротаў грамадзян.*

Усе пытанні, якія тычацца жыццядзейнасці і патрабуюць неадкладнага вырашэння, можна накіраваць у выглядзе SMS па тэлефоне +375-33-370-27-11, паведамляе БелаПАН.

На працягу сямі дзён адказ абяцаюць апублікаваць у рубрыцы "Лінія SMS-паведамленняў" на афіцыйным сайце адміністрацыі Чыгуначнага раёна.

ЭКАНОМІКА

## *Чарговы беларускі інвестыцыйны форум пройдзе ў Лондане 14 лістапада*

*"Мэтай бізнес-форуму з'яўляецца прасоўванне інвестыцыйнага патэнцыялу Беларусі на сусветным рынку, фарміраванне яе іміджу як надзейнага дзелавога і інвестыцыйнага партнёра", — адзначаецца ў прэс-рэлізе Нацыянальнага агенцтва інвестыцый і прыватызацыі.*

Ужо вядома, што беларускую дэлегацыю на форуме ўзначаліць старшыня Банка развіцця Рэспублікі Беларусь **Сяргей Румас.** У яе склад таксама ўвойдуць прадстаўнікі Мінэканомікі, Мінфіна, Нацбанка, МЗС, Банка развіцця, Нацыянальнага агенцтва інвестыцый і прыватызацыі, Парка высокіх тэхналогій, кампаніі па развіцці Індустрыяльнага парка.

*"Мэтазгоднасць правядзення падобных мерапрыемстваў была пацверджана на форумах, што паспяхова прайшлі"*, — адзначае прэс-служба агенцтва інвестыцый і прыватызацыі.

Першы беларускі інвестыцыйны форум прайшоў у Лондане ў 2008 годзе, другі — у 2009-м у Мінску, трэці — у 2010 годзе ў Германіі.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Власть пилит административную ренту

Последние годы число сторонников перемен в Беларуси стабильно растет. Но если это так, почему не наступают перемены? Какой смысл вкладывают белорусы в само понятие "перемены"? Означает ли это, что народу нужны экономические реформы и перестройка политической системы, либо "перемены" в общественном сознании ассоциируются с совершенно иными вещами?

Опять же: коль в народе сформировался спрос на новую жизнь, готова и способна ли власть удовлетворить этот спрос?

Ответы на поставленные вопросы в рамках проекта "Реформ" мы искали в беседе с экспертом — социологом **Сергеем Николюком.**

**— Июньский опрос НИСЭПИ зафиксировал рост сторонников перемен: "важнее изменение нынешнего положения" — для 52,1% респондентов, "важнее сохранение нынешнего положения" для 38,3%. Устойчивый рост численности первой группы происходит последние годы. Почему же тогда все остается по-прежнему, если большинство жаждет изменений в своей жизни, жизни общества и страны?**

— Ожидание перемен — это всего лишь декларации, а от деклараций до реальных действий — огромная дистанция. Именно поэтому я всегда говорю, что в Беларуси нет общественного мнения в западном смысле слова. Лично я не могу представить, чтобы белорусские газеты вышли с заголовками "Под давлением общественности наш парламент принял либо отверг тот или иной закон".

Да, действительно — растет недовольство. Но это диффузное недовольство — оно не порождает совместных действий.

Однако утверждать, что власть совершенно не учитывает настроений общественности, тоже не совсем правильно. Вертикаль прекрасно понимает, что нужно поднимать пенсионный возраст, однако этого не делает; разговоры о повышении платы за ЖКХ ведутся каждый год, эти планы учитываются при формировании бюджета, однако до сих пор они так и остались нереализованными.

Так что мы наблюдаем очень сложное соотношение между общественным недовольством и реакцией власти.

**— Каких именно перемен ожидают белорусы?**

— Спрос на перемены — реакция на ухудшение экономического положения. Среди проблем, которые волнуют белорусов, на первом месте неизменно оказывается рост цен. Поэтому главное ожидание людей — улучшение своего собственного благосостояния.

И ничего удивительного. В состоянии политической апатии, в котором находится белорусское общество, интересы абсолютного большинства редко выходят за рамки повседневных проблем.

**— Значит, речь не об экономических реформах и не о перестройке политической системы страны?..**

— Когда экономика доходит до критического уровня, недовольство переносится на власть, на политическую систему. В условиях кризиса белорусы на вопрос "Кто виноват?" в первую очередь указывают на президента. И это правильно: раз он все замкнул на себя, именно он и выступает главным виновником кризиса.

**— Раз есть спрос на перемены, власть обязана обеспечить предложение. Могут ли чиновники удовлетворить спрос населения? Лукашенко не первый год ведет борьбу за модернизацию белорусских предприятий, однако она провалена. Почему?**

— Модернизация есть процесс трансформации традиционного общества в общество модерна. Это если заглянуть в словарь. Но, начиная с Петра I, у нас под модернизацией понимается завоз нового оборудования. Лукашенко тут неоригинален.

Соединяя несовременное общество с современным оборудованием, получить на выходе конкурентоспособную экономику нельзя. И чем сложнее будет оборудование и технологии, тем большими окажутся убытки.

Авторитарная власть не может опираться на свободных людей, а несвободные люди не могут эффективно работать. В таком противоречии Лукашенко и балансирует. Пока удается выживать, но за счет российских дотаций.

Как тут не вспомнить либерализацию, объявленную в 2007-м, — между прочим, в ответ на двукратное повышение Россией цены на газ. Но все было свернуто за 7 минут 19 декабря 2010 года. А проблема неконкурентоспособности белорусской экономики осталась. Ее попытались решить с помощью модернизации государственных предприятий — однако кампания завершилась сплошными убытками. Пришлось наступить на горло собственной песне и ограничиться точечным улучшением ситуации. Затраты на приобретение машин и оборудования в нынешнем первом полугодии сократились на 12,3%. А куда деться! Через год выборы, с пустыми государственными закромами проводить их опасно.

**— Ладно, пусть модернизация предприятий не нашла отклика у народа. Но почему молчат элиты, в нашем случае номенклатура: ведь кто-кто, а она-то понимает, что без реформ движение вперед невозможно?**

— Номенклатура может открыть рот, но ее тут же не станет. По известным причинам.

На сегодня мы имеем достаточно консолидированный авторитарный режим, которого не было в той же Украине по ряду причин. Чем занята власть в такой ситуации? Власть пилит административную ренту. Раз пилит — значит, в стране есть что пилить.

**— Однако у населения сложился спрос на перемены, пусть и в белорусском понимании. Каким образом власть может удовлетворить этот спрос хотя бы частично?**

— Александр Лукашенко объявлял, что до конца пятилетки средняя зарплата удвоится. Сейчас всем ясно, что это невыполнимо. Невозможно даже искусственно натянуть зарплату до таких размеров, как довели ее до 500 долларов в 2010 году.

Недавно в публичном доступе появилась очередная порция официальной статистики. 55% в доходах ВВП занимает зарплата — это очень много! В результате мы имеем падение прибыли, рост себестоимости продукции, рост складских запасов. Дальше двигаться в заданном направлении уже невозможно.

Но на фоне Украины, на фоне военных действий Лукашенко получил дополнительную возможность сделать ставку на белорусскую "стабильность". И это серьезный аргумент, надо признать. Макроэкономическая статистика в Украине за первое полугодие выглядит вполне приемлемо для воюющей страны, но если мы посмотрим показатели за июнь, то увидим падение на 10—20%. Перспектива довольно мрачная. Экономический коллапс не исключен.

А белорусские СМИ постараются донести до населения последствия войны в Украине, можно не сомневаться.

Если ситуация в Беларуси будет и дальше развиваться на этом фоне, то проблема 2015 года для Лукашенко вполне решаема.

**Владимир ЖУРАВОК.**

ДЫПКУР'ЕР

## *Пасольства Італіі ў Мінску ажыццяўляе дастаўку пашпартоў на дом*

*Пасольства Італіі ў Мінску ўвяло новую паслугу для больш лёгкай працэдуры выдачы віз 1 ліпеня 2014 года. Дзякуючы гэтаму сэрвісу, заяўнікі могуць пазбегнуць паўторнай паездкі ў пасольства, атрымаўшы дакумент на рукі дома.*

*"Мы паведамляем аб увядзенні гэтай паслугі праз месяц выпрабавальнага тэрміну, цягам якога мы пастаянна адсочвалі працэс дастаўкі пашпартоў з візамі атрымальнікам на дом і ўпэўніліся ў яго бесперабойнай працы,* — заявіў БелаПАН першы сакратар пасольства **Уга Боні.** — *Сёння мы можам з упэўненасцю сказаць, што гэтая паслуга з'яўляецца надзейнай, зручнай і хуткай. Больш як 100 грамадзян скарысталіся ёю і засталіся задаволены, таму што змаглі значна скараціць час чакання дакумента: пашпарт быў дастаўлены ім на працягу 3—4 дзён з моманту падачы заявы на візу".*

Паводле звестак пасольства, за забеспячэннем якасці гэтай паслугі сочыць упаўнаважаны супрацоўнік, які дапамагае заяўнікам запоўніць бланк перасылкі, уласнаручна адпраўляе пашпарт і курыруе яго дастаўку на адрас атрымальніка.

У італьянскім пасольстве зазначаюць, што ўвядзенне гэтай паслугі *"выклікана жаданнем дапамагчы жыхарам рэгіёнаў, сем'ям з дзецьмі, пажылым і працуючым людзям".*

*"Заказваючы дастаўку пашпарта на дом, заяўнік пазбягае бессэнсоўнай траты часу на тое, каб прыехаць у Мінск па дакумент падчас напружанага працоўнага тыдня. Ён таксама значна скарачае час свайго чакання ў параўнанні з традыцыйным уручэннем дакумента: пашпарт з візай адпраўляецца на адрас атрымальніка на наступны пасля падачы дакументаў дзень",* — дабавілі ў пасольстве Італіі.

Кошт паслугі складае 100 тысяч беларускіх рублёў і не залежыць ад колькасці пашпартоў. Напрыклад, сям'я з трыма дзецьмі аплачвае той жа кошт перасылкі, што і адзін чалавек, растлумачылі ў пасольстве. Каб скарыстацца паслугай, трэба звярнуцца ў візавы аддзел пасольства Італіі ў прыёмныя гадзіны.

ПАМЯЦЬ

# «Рут Уолер — прыклад адданасці чалавека сваёй справе...»

*Учора ў Мінску Часовы Паверанны ў Справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд і прадстаўнікі ААН ушанавалі памяць амерыканскай супрацоўніцы ААН Рут Уолер, якая памерла ў беларускай сталіцы ад цяжкай хваробы 4 жніўня 1946 года.*



Скот Роланд ля магілы Рут Уолер.

У 1946 годзе Рут Уолер разам з мужам працавала ў Мінску ў створанай ААН місіі UNRRA — Адміністрацыі дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый, якая аказвала эканамічную дапамогу краінам Еўропы, а таксама займалася рэпатрыяцыяй і падтрымкай уцекачоў.

У склад місіі UNRRA ў Беларусі ўваходзілі 15 амерыканцаў і грамадзянін Новай Зеландыі. Уолер займалася арганізацыяй паставак у Беларусь прадуктаў, медыцынскіх прэпаратаў.

У Мінску Рут Уолер уратавала беларускіх хлопчыкаў, якія тапіліся ў вадаёме. Аднак сама пераахаладзілася і сур'ёзна захварэла на запаленне лёгкіх і хуткацечны менінгіт. Пахавалі яе ў Мінску на Вайсковых могілках.

*"Рут Уолер — гэта прыклад адданасці чалавека сваёй справе,* — сказаў прадстаўнік ПРААН у Беларусі **Санака Самарасінха.** — *І тая работа, якой яна займалася, не закончана. Нам яе працягваць".*

*"Рут у пасляваенны час дапамагала беларусам, працуючы ў гуманітарнай арганізацыі,* — дадаў Часовы Паверанны ў Справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд. — *Яна не пашкадавала свайго жыцця, каб выратаваць іншых, і гэта павінна стаць сімвалам ва ўзаемаадносінах паміж нашымі краінамі".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДАТА



## *Дзень памяці Якуба Коласа*

*58 гадоў таму, 13 жніўня 1956 года, пайшоў з жыцця вялікі майстар мастацкага слова, народны паэт Беларусі Якуб Колас. У дзень смерці паэта на Вайсковых могілках сталіцы адбудзецца памінальны мітынг і ўскладанне кветак да помніка песняра.*

Удзел у ім возьмуць члены сям'і Якуба Коласа: сын **Міхась Міцкевіч,** унукі і праўнукі, а таксама літаратары, грамадскія дзеячы, мастакі, навукоўцы. Пачатак мерапрыемства а 15-й гадзіне.

Жыццё паэта — узор і прыклад для ўсіх, хто хоча пакінуць добры след пасля сябе, паслугаваць Айчыне незалежна ад таго, якой справе сябе прысвяціў. Класік нацыянальнай і сусветнай літаратуры, аўтар паэтычных шэдэўраў, педагог, літаратурны крытык, публіцыст, перакладчык, вучоны, дзяржаўны дзеяч, чалавек вялікай і шчодрай душы — такім быў Якуб Колас ва ўспрыманні сучаснікаў. Такім ён застаецца і сёння ў свядомасці беларускага грамадства, шматлікіх прыхільнікаў яго таленту...

**Аліна ВЕТРАВА.**

НА ТЫЯ Ж ГРАБЛІ...

## *Палітычныя памылкі*

*Міністэрства юстыцыі адмовіла ў рэгістрацыі Рэспубліканскага праваабарончага аб'яднання "Пакт" — Руху за рэалізацыю Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.*

Дакументы на рэгістрацыю ў Мінюст былі пададзены 27 чэрвеня. Старшынёй грамадскага аб'яднання на ўстаноўчым сходзе быў абраны доктар юрыдычных навук прафесар **Міхаіл Пастухоў**, намеснікам — **Віктар Карняенка**, выканаўчым дырэктарам — **Леанід Судаленка**. Арганізацыя сваёй дзейнасцю плануе садзейнічаць выкананню Беларуссю міжнародных абавязацельстваў па пытаннях правоў чалавека.

Міхаіл Пастухоў лічыць, што Мінюст адмовіў у рэгістрацыі аб'яднання па абсалютна надуманых і фармальных прычынах. Міністэрства ў адказе спаслалася на такія недакладнасці ў дакументах, як памылка ў нумары кватэры аднаго з заснавальнікаў і ў даце нараджэння другога заснавальніка.

На думку Пастухова, дадзеныя тэхнічныя памылкі можна было элементарна ліквідаваць.

Як лічыць суразмоўца БелаПАН, улада баіцца таго, што людзі аб'яднаюцца і разам стануць дабівацца абароны сваіх правоў.

### ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

На сёння КПЧ вынесена 57 рашэнняў па Беларусі. Аднак ні адно з іх не выканана кіраўніцтвам краіны. У камітэце зарэгістраваны больш за 150 скаргаў беларусаў на невыкананне дзяржавай іх правоў.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## *У Гродне прадставілі даведнік па мясцінах паўстання Кастуся Каліноўскага*

*Даведнік мае назву "Шляхамі паўстання 1863 года" і змяшчае ў сабе трохдзённы маршрут па гістарычных мясцінах.*

Кніга мае шмат ілюстрацый і мапаў, па якіх можна падарожнічаць амаль тысячу кіламетраў.

*"Гэты даведнік — з шэрагу падзей, звязаных з адзначэннем паўстання 1863 года, ён ахоплівае зноў жа самую важную для гісторыі паўстання тэрыторыю — Заходнюю частку Беларусі — Гродзеншчыну, паўночную частку Брэстчыны і Міншчыну,* — распавядае гродзенскі гісторык **Андрэй Вашкевіч.** — *Гэта толькі адзін з прыкладаў даведнікаў, якія можна рабіць".*

Народная Воля http://www.nv-online.info
5 ЖНІЎНЯ 2014 г.

ПРОДАЕТСЯ!

## Минский хлебозавод №1 подешевел на 4 миллиона долларов

*Предприятие снова выставлено на продажу. Очередной аукцион намечен на 10 сентября.*

По сравнению с декабрем 2012 года начальная цена предприятия понижена на 17,4 млрд рублей и составляет 108.159.197.237 рублей (10,5 млн долларов по курсу Нацбанка). С учетом изменения начальной цены и девальвации за полтора года завод подешевел на 4 млн долларов.

Как сообщается на сайте Мингорисполкома, от победителя торгов потребуется соблюсти ряд обязательных условий. В течение двух лет с даты заключения договора купли-продажи необходимо сохранить профиль предприятия, а также число рабочих мест (сейчас на хлебозаводе трудится 408 человек). Новый собственник обязан будет также погасить кредиторскую задолженность предприятия. Общая сумма обязательств превышает 4,5 млрд рублей.

Еще одно условие: при последующей реконструкции необходимо сохранить дома в №25 и 30 по улице Раковской, которые являются памятниками архитектуры XIX века и включены в государственный список историко-культурных ценностей Республики Беларусь. При этом дом №30 может быть реконструирован под музей истории развития пищевой промышленности с выставочными залами.

ПОСЛЕ СОБЫТИЯ

## И это все о нем



Выставка ретроспективной фотографии известного мастера **Юрия Иванова** "Вне времени" закрылась в городской галерее имени М.Савицкого. Сообщаю об этом не без умысла, хотя понимаю, что принято информировать об обратном: об открытии, о начале, о старте. Но в данном случае получается, что "шлейф" от прошедшей выставки фото так же интересен, как и сам вернисаж, потому что он тоже о Времени. О нашем времени. И "шлейф" этот заключен в обыкновенной Книге отзывов, которую, как правило, кладут у входа.

Казалось бы — формальность: написать пару слов автору. А если от души? А если от переполненных чувств?

*"Несколько лет назад увидел плакат ко Дню Победы с Вашей фотографией "Майский снег". С тех пор не могу спокойно смотреть на нее — так трогает. Спасибо огромное! Моменты истины в простых и незамысловатых сюжетах. Евгений, Солигорск".*

*"Імя, я веру, — гэта код лёсу. Ты, Юра, — ваяр, пераможца! Хай жа кожны міг твайго зямнога раю будзе ў радасць і табе самому, і людзям. Шчыра — Уладзімір Ліпскі".*

*"Дорогой Юрий! Все мгновения, остановленные тобой, выстраиваются в нашу прекрасную историю жизни. Ждем новых произведений. Архитектор В.Крамаренко".*

*"Большое спасибо за возможность прикоснуться к событиям недавнего белорусского прошлого. Даша, г. Иркутск, РФ".*

*"Удивительный мир представлен на выставке. Здесь история, люди, здесь запах прошедшей эпохи. Ценность художественная, ценность историческая. Вдохновения мастеру, энергии молодой и сильной, любви к жизни и людям! Владимир Савченко, членкор НАН Беларуси".*

И таких отзывов больше сотни. И это в наше плотно сжатое, неодушевленное, как считают многие, компьютерное время! Или, как всегда, все зависит от источника, личности, творчества?.. Желаем мастеру Юрию Иванову долгого творческого горения!

**Елена МОЛОЧКО.**

ШОППИНГ

## Здравствуй, школа!

*23 и 24 августа в Минске пройдет школьная ярмарка.*

В Минске в августе будут работать 25 школьных базаров, в том числе постоянно действующие при ОАО "ГУМ", ОАО "ЦУМ Минск", УП "Универмаг "Беларусь", ООО ТД "На Немиге" и другие. 23 и 24 августа с 10.00 до 18.00 в районе Дворца спорта пройдет ярмарка "Здравствуй, школа!".

## Белорусы везут из Польши телевизоры и обувь

*Согласно данным главного статистического управления Польши, покупатели из Беларуси, Украины и России потратили в Польше в минувшем году около 8,2 млрд злотых. Это на 23,4% больше, чем в позапрошлом.*

Количество заграничных любителей совершать покупки в Польше ежегодно увеличивается по двум причинам. Большинство товаров в Польше можно приобрести дешевле, при этом зачастую лучшего качества и в более широком ассортименте, тем более что у каждого иностранца есть право возврата НДС.

По мнению владельца одного из торговых центров Белостока, белорусы, россияне и украинцы обычно не покупают дешевый товар, а предпочитают делать более дорогие и качественные покупки, чем среднестатистические польские покупатели. К примеру, белорусы покупают телевизоры большего размера, чем поляки. Среди самых популярных товаров также строительные материалы, бытовая химия, обувь и одежда.

ПРОЕКТЫ

## Куда еще поедет метро?

*Директор ОАО "Минскметропроект"* ***Валерий Чеканов*** *рассказал о планах по строительству 3-й и 4-й линий метрополитена.*

— Уже в этом году мы начнем разрабатывать обоснование инвестиций по участку 3-й линии метро от "Юбилейной площади" до Зеленого Луга, а в начале 2015-го приступим к обоснованию инвестиций по 4-й линии, — *цитирует Валерия Чеканова агентство "Минск-Новости"*. — При этом не только аргументируем необходимость строительства новых участков, но и разделим их на пусковые комплексы. По мнению наших специалистов, во второй участок 3-й линии должны войти 4 станции, которые разместятся на отрезке подземного пути от пл.Юбилейной до пл.Бангалор: на пересечениях пр.Победителей и ул.Мельникайте, пр.Машерова и ул.Кропоткина, ул.Максима Богдановича и ул.Веры Хоружей и на пл.Бангалор. Предусмотрено, что "Площадь Бангалор" в будущем образует пересадочный узел со станцией 4-й линии метро, рабочее название которой "Парк Дружбы народов". Далее мы предлагаем не продлевать 3-ю линию от "Площади Бангалор" в сторону Зеленого Луга, а строить первый участок 4-й — под ул.Сурганова — хотя бы до станции "Дом печати" (пересадка на "Академию наук)". Так мы получим еще один пересадочный узел — между 1-й и 4-й линиями.

В перспективе 4-я линия должна пройти по полукольцу из Чижовки до Веснянки. Пока более или менее определенно проектировщики говорят только об участке от пл.Бангалор до Тракторного завода. Здесь планируются станции: "Парк Дружбы народов" (образует пересадочный узел с "Площадью Бангалор" 3-й линии); "Дом печати" (пересадка на станцию "Академия наук" 1-й линии); "Платонова" (на пересечении ул. Сурганова, ул.Академической и ул.Платонова); "Уральская" (пересечение ул.Уральской и ул.Фроликова); "Долгобродская" (пересадка на станцию "Тракторный завод" 2-й линии).

Однако даже приблизительных сроков воплощения этих планов в жизнь пока не называют.`

ЧУЛІ?

## Мінадукацыі прапануе ўвесці мабільны тарыф «Настаўніцкі»

*Перамовы вядуцца з аператарамі мабільнай сувязі.*

Пра гэта паведаміў рэктар Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта імя Максіма Танка **Аляксандр Жук**.

Паводле яго слоў, якія цытуе belta.by, гэта адна з прапаноў, якія разглядаюцца цяпер мабільнымі аператарамі Беларусі — па сацыяльнай падтрымцы настаўніцтва. Тарыф "Настаўніцкі" прадугледжвае зніжкавую сістэму на тэлефонныя размовы.

Папярэднія перамовы наконт такой меры прайшлі ў Міністэрстве адукацыі, і цяпер ідзе праца па магчымай рэалізацыі такога праекта. Жук адзначыў, што пакуль яшчэ рана казаць пра тэрміны ўвядзення такога плана.

БОЛЬ

# Іх не хапае

У жыцці мне шанцуе на талковых, разумных людзей. Многія з маіх сяброў, прыяцеляў, таварышаў — прафесіяналы найвышэйшай кваліфікацыі.

А як, заўважыце, у іх з грамадзянскай, палітычнай пазіцыяй? Буду шчырым: байцоўскіх якасцяў некаторым, на жаль, не хапае. Такая заканамернасць. *"У нас ёсць нямала таленавітых людзей, але вельмі і вельмі мала таленавітых грамадзян",* — выказаўся некалі ў сваім шэдэўральным артыкуле "Бал сатаны" знакаміты кінарэжысёр і публіцыст Віктар Дашук.

Ашчаслівіць народ не кожны здольны. А тых, хто мог гэта зрабіць, — на жаль, напаткаў трагічны лёс. Я ведаў іх. І не проста ведаў, а падтрымліваў цесныя адносіны, з некаторымі, можна сказаць, сябраваў.

**Генадзь Карпенка…**
**Віктар Ганчар…**
**Юрый Захаранка…**
**Анатоль Майсеня…**

Чаму, чаму не захінуў іх Бог ад бяды, заўчаснага і вельмі ранняга развітання з жыццём?! Дакладней — чаму не захінуў іх Бог ад гвалтоўнага пазбаўлення самага дарагога, што можа мець чалавек, — жыцця?! Няма таго дня, каб я не задаваў гэтыя балючыя да крыві пытанні сабе і Найвышэйшаму.

Генадзь Карпенка, у якога былі ўсе шанцы перамагчы А.Лукашэнку на чарговых выбарах і стаць другім па ліку прэзідэнтам краіны, памёр у бальніцы. У эпікрызе напісана — ад кровазліцця ў мозг. Не вытрымалі, лопнулі сасуды. А што справакавала лятальны зыход?

Не буду раскручваць версію, якая ўзбудзіла шырокую грамадскасць і не дае спакою па сённяшні дзень, — маўляў, не абышлося без злой рукі тых, каму Генадзь Дзмітрыевіч муляў вока, быў перашкодай на палітычным і службовым шляху. У любым выпадку зразумела адно: сасуды мозга лопаюцца не самі па сабе. Па прыродзе Карпенка быў асілкам, волатам. З юных гадоў трэніраваў мускулатуру і нервовую сістэму спортам, вёў здаровы лад жыцця. Будучы віцэ-спікерам парламента, ужо на пятым дзясятку гадоў мог дзевяноста хвілін бегаць па футбольным полі з судзейскім свістком, а то і куляй насіцца ў ролі гульца.

У спартыўнай форме Карпенка адчуваў сябе моцным і шчаслівым. А ў Авальнай зале парламента? Бывала, іскры ляцелі, калі ён браў у рукі мікрафон. Кроў пырскала, калі публічна распраўляўся з рознымі мярзотнікамі. Менавіта акрываўленага я прывёз яго ў рэдакцыю "Народнай Волі" адмывацца, калі ён на афіцыйным прыёме ў рэстаране гасцініцы "Планета" за паклёп і абразу адвесіў моцную аплявуху паслужліваму рэдактару праўладнай газеткі Міхаілу Шыманскаму.

Што выклікала ў Генадзя Дзмітрыевіча Карпенкі, доктара тэхнічных навук, намесніка старшыні Вярхоўнага Савета нястрымны гнеў? Несправядлівасць. Спекуляцыя прыстасаванцаў усіх масцей, розных гадзёнышаў на горы народным. Падман таго ж народа. З высокіх трыбун балбаталі пра дэмакратыю, а тым часам у краіне ўсталёўвалася дыктатура. Душылася беларушчына, перакрэслівалася сапраўдная гісторыя, бэсцілася культура. Кволыя парасткі перабудовачных рэформ, як і любое іншадумства, нішчыліся на карані. Людзям, якія не падтрымлівалі "маладых ваўкоў" ва ўладзе, можна сказаць, перакрывалі кісларод.

Генадзь Карпенка быў не з тых, каго падкуплівалі высокія пасады, прывілеі і магчымасць "прыгожа жыць". Ён вырас у рабочай сям'і і як мог адстойваў інтарэсы простага чалавека. У змаганнях з апанентамі загартоўваўся, набываў моц. Яго палітычныя і эканамічныя ідэі былі скіраваны на нацыянальнае адраджэнне Беларусі, фарміраванне гаспадарчых механізмаў на новай, рынкавай аснове.

Падчас пратэстных дэманстрацый (а ў тыя гады яны праходзілі часта) Генадзь Карпенка заўсёды ішоў наперадзе калоны. Высокі, мажны, прыгожы. Здавалася, жыць яму ды жыць! І раптам... Не, сасуды мозга самі па сабе не лопаюцца. Ім патрэбны кісларод. А ў палітычным паветры яго станавілася ўсё менш і менш...

А лёс Віктара Ганчара? У Вярхоўны Савет ён прыйшоў з кафедры тагачаснага Беларускага інстытута народнай гаспадаркі. І адразу сышоўся з Генадзем Карпенкам. З дэпутацкімі мандатамі разам паехалі ў Маладзечна будаваць "горад Сонца". Адзін стаў старшынёй гарвыканкама, другі — яго першым намеснікам. Разам, не спалохаўшыся пагроз, выступілі за імпічмент А.Лукашэнку. Пад "Заявай спецыяльнай камісіі па прававой ацэнцы парушэнняў Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкам Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь" подпіс В.Ганчара стаіць першым. Пасля таго як парламент зацвердзіў яго старшынёй Цэнтральнай выбарчай камісіі, ён адкрыта заявіў, што не падпіша пратакол, калі вынікі рэферэндуму з уключэннем у бюлетэні антыканстытуцыйных пытанняў будуць сфальсіфікаваны.

Палітык — у першую чаргу трыбун. Па аратарскіх здольнасцях маладому кандыдату юрыдычных навук мог даць фору, бадай, толькі сам Цыцэрон. Яго зброяй было СЛОВА. Слова ПРАЎДЫ, слова ў абарону дэмакратыі, у абарону роднай Беларусі, яе шматпакутнага народа. Зброяй тых, каго і людзьмі нельга назваць, была брутальная бандыцкая сіла.

Як сёння, помню той дзень — 16 верасня 1999 года. Прэзідэнт праводзіць нараду з кіраўнікамі сілавых структур. Па тэлебачанні былі паказаны фрагменты яго выступлення. Каршуком налятае ён на апазіцыю: *"Они сегодня дестабилизируют обстановку... Меры должны быть приняты не просто адекватные, а жесточайшие меры..."* У той жа вечар Віктар Ганчар і яго сябра, бізнесмен Анатоль Красоўскі, знікаюць у цэнтры Мінска. Праз некалькі месяцаў следчы В.Чумачэнка напіша ў афіцыйнай пастанове: *"...с применением насилия были похищены неустановленными лицами и увезены в неизвестном направлении".* На месцы захопу былі знойдзены аскепкі шкла і плямы крыві, якая — так засведчыла экспертыза — належала В.Ганчару.

Андрэй Клімаў, які, знаходзячыся ў адным складзе Вярхоўнага Савета з Віктарам Ганчаром і быў яго аднадумцам, тады сказаў у інтэрв'ю: *"Я думаю, што на сённяшні дзень А.Лукашэнка стаіць перад сур'ёзным выбарам: ці ён павінен узваліць на сябе віну за выкраданне і магчымую гібель Віктара Ганчара і адказаць за гэта, ці ён павінен усё ж давесці расследаванне да канца і паставіць перад судом тых, хто гэта здзейсніў..."* Мінула амаль пятнаццаць гадоў, ні аднаго, ні другога не адбылося. Ніхто не паставіў перад судом тых, у каго на руках кроў Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Злачынцы, топчучы беларускую зямлю, дасюль не панеслі справядлівага суровага пакарання. Як і бандзюкі, што ўчынілі расправу над генералам, экс-міністрам унутраных спраў Юрыем Захаранкам.

...Пасля адстаўкі з дзяржаўнай пасады Юрый Мікалаевіч стаў актыўна падтрымліваць апазіцыю. Ён увайшоў у кіруючыя органы Аб'яднанай грамадзянскай партыі, разам з былым міністрам абароны Паўлам Казлоўскім і іншымі экс-сілавікамі заняўся стварэннем Саюза афіцэраў, які мог бы стаць моцнай сілай па згуртаванні патрыётаў Беларусі.

Літаральна за некалькі дзён да бяды, недзе на пачатку мая 1999 года, Ю.Захаранка завітаў у рэдакцыю "Народнай Волі". Сеў за стол насупраць мяне, пайшла гаворка аб сітуацыі ў краіне. Слова за слова, і Юрый Мікалаевіч, нібыта па сакрэце, сказаў: "Вас, журналістаў, чакае вялікая сенсацыя..." Не ведаю, што ён меў на ўвазе, але сенсацыя, нечуваная сенсацыя, як гром, выбухнула праз пару сутак: 7 мая 1999 года прыблізна каля 22 гадзін вечара па дарозе дахаты экс-міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, генерал-маёр міліцыі Юрый Захаранка, які за кароткі час стаў знакавай фігурай у апазіцыйным асяродку, знік. Ёсць сведкі, што бачылі, як яго жорстка скруцілі і заштурхалі ў машыну. І адбылося такое ўсяго у некалькіх сотнях метраў ад кватэры па вуліцы Магілёўскай, дзе заставаліся жонка з дачкой і ўнукам.

Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2001 года ў прэсе з'явіліся дакументы, праліваючыя святло на знікненне апазіцыйных палітыкаў. Няма сэнсу пераказваць поўны тэкст *"абсалютна сакрэтнага"* рапарта начальніка Галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў генерал-маёра Мікалая Лапаціка на імя тагачаснага міністра ўнутраных спраў У.Навумава. Заўважу толькі: з таго часу мінула амаль пятнаццаць гадоў, ніхто не абвергнуў ніводнага слова М.Лапаціка, але і не прыняў неабходных мер па прыцягненні да адказнасці віноўных у здзяйсненні замаху на жыццё экс-міністра ўнутраных спраў, вядомага палітыка і грамадскага дзеяча Ю.Захаранкі. Хоць у рапарце М.Лапаціка наўпрост сказана (цытую з захаваннем правапісу арыгінала): *"...Шейман В.В. дал указание Павлюченко физически уничтожить бывшего министра внутренних дел Захаренко Ю.Н. Информационное обеспечение местонахождения Захаренко для действий Павлюченко было обеспечено спецподразделением Васильченко Н.В., задание на которое ему также дал Шейман В.В. через своих сотрудников. Акция захвата и последующего уничтожения Захаренко была произведена Павлюченко, командиром роты СОБРа, и командиром 1-й роты спецназа и четырьмя его бойцами".*

Загадкавая смерць Генадзя Карпенкі.

Трагічны лёс Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага.

Жудасная расправа з Юрыем Захаранкам.

Гвалтоўнае пазбаўленне жыцця ні ў чым не вінаватага тэлеаператара Дзмітрыя Завадскага, якому было ўсяго 27 гадоў.

Што і казаць, недаравальна рана абарвалася жыццё людзей, якія горача марылі пра свабодную, вольную, дэмакратычную Беларусь. І сёння я не магу не ўзгадаць яшчэ аднаго з тых, хто на практыцы спраўджваў мару аднадумцаў, мару ўсіх свядомых беларусаў, але па злой волі, як і яго сябры, даўно ляжыць у сырой зямлі. Анатоль Майсеня... Эрудыт, паліглот, публіцыст, палітык. Кандыдат філасофскіх навук. Цяжка яму дыхалася на дзяржаўным заангажаваным тэлебачанні. А "Народная газета", якую я тады, будучы дэпутатам Вярхоўнага Савета, рэдагаваў, вызначалася дэмакратычнасцю, адкрытасцю для аўтараў самых розных поглядаў. Вось і звярнуўся Анатоль з просьбай: "Вазьмі на работу". — "У якасці каго?" — "Палітычным аглядальнікам".

Немагчыма пералічыць, колькі найактуальнейшых, найвастрэйшых матэрыялаў напісаў ён падчас нашай сумеснай работы ў тагачаснай парламенцкай газеце! Рэдкі выпадак: артыкул А.Майсені "Беларусь во мгле" перадрукоўваўся два ці, здаецца, тры разы, нават пасля смерці Анатоля.

Рана, рана перастала біцца сэрца А.Майсені. 12 лістапада 1996 года ў 7 гадзін 30 хвілін на 286-м кіламетры трасы Брэст—Мінск аўтамабіль "Джып Чэрокі", за рулём якога знаходзіўся прэзідэнт Нацыяльнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў "Усход—Захад", яркі журналіст і палітолаг Анатоль Майсеня, на вялікай хуткасці ўрэзаўся ў спадарожны "ГАЗ-53". Выжыць у такой аварыі не было ніякіх шанцаў. Афіцыйная версія — "не справіўся з кіраваннем".

Так, магчыма, Анатоль сапраўды заснуў за рулём і "не справіўся з кіраваннем". Але ці маглі такія высновы следчых супакоіць грамадскасць? Што прывяло да трагедыі? Што яе справакавала? На той час палітычная сітуацыя ў краіне была выбуховая. Дзейнічаў "эскадрон смерці", абвальвалася эканоміка, жабрацтва падпаўзала да многіх людзей. Рашучае слова павінна была сказаць грамадзянская супольнасць. І А.Майсеня ўзваліў на свае плечы ношу, якая не пад сілу была не толькі аднаму, а і дзясятку чалавек. Ён без супыну і адпачынку тыднямі, месяцамі курсіраваў па гарадах і вёсках, будаваў мост паміж Еўропай і Беларуссю. Вось і ў тым ракавым лістападзе 1996 года Анатоль, не спыніўшыся ў Варшаве на начлег, спяшаўся да дзевяці гадзін раніцы вярнуцца з канферэнцыі ў Рыме, каб без спазнення адкрыць у Мінску міжнародны сімпозіум па абмеркаванні гарачых пытанняў Беларусі. Да сумнавядомага рэферэндуму заставаліся два тыдні, агульнымі намаганнямі неабходна было разруліць надзвычай складаную сітуацыю. Смерць парушыла ўсе планы...

Жалеза і тое не вытрымлівае перагрузак. Чалавек — не жалеза, і пасля некалькіх бяссонных начэй, шматлікіх перанапружаных дзён усялякае можа здарыцца — лопнуць сасуды, зліпнуцца вочы... А калі яшчэ ўмешваюцца злыя сілы... Фінал — трагедыя, абрыў жыцця... У Анатоля Майсені яно было толькі-толькі на ўзлёце, і вось табе — раптоўная смерць. Не, яна была не раптоўная, ёй папярэднічала ўсё, што адбывалася вакол яго ў тыя страшэнна цяжкія часы. Смерць патрыёта — гэта ўскосны вынік той няўдалай палітыкі, калі кіруючыя вярхі не столькі думаюць пра справядлівасць, законапаслухмянасць, правы чалавека, дэмакратыю, колькі ўсімі магчымымі і немагчымымі спосабамі чапляюцца за ўладу. Колькі жыццяў згублена, пакалечана з гэтай прычыны!

Чым больш мінае часу пасля заўчаснай смерці Генадзя Карпенкі, Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, Анатоля Майсені і другіх патрыётаў Беларусі, тым больш гарачым болем адгукаецца гора ў маім сэрцы. Іх, самаадданых і шчырых, адкрытых і прынцыповых, свабодалюбівых і найгуманнейшых, востра не хапае мне. Іх не хапае ўсім, хто пакутуе, перажываючы за лёс краіны, за яе сённяшні і заўтрашні дзень.

Я на сто працэнтаў упэўнены: калі б яны заставаліся жывымі — у нас было б зусім іншае жыццё. Лепшае. Больш годнае, больш вольнае.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ.**



*Генадзь Карпенка* — 6 красавіка 1999 года памёр ад кровазліцця ў мозг пры загадкавых абставінах.



*Віктар Ганчар* — 16 верасня 1999 года па-бандыцку схоплены ў цэнтры Мінска.



*Анатоль Красоўскі* — 16 верасня 1999 года па-бандыцку схоплены ў цэнтры Мінска.



*Юрый Захаранка* — 7 мая 1999 года па-бандыцку схоплены ў некалькіх сотнях метраў ад сваёй кватэры па вуліцы Магілёўскай у Мінску.



*Дзмітрый Завадскі* — 7 ліпеня 2000 года па-бандыцку схоплены па дарозе ў Нацыянальны аэрапорт.



*Анатоль Майсеня* — 12 лістапада 1996 года трагічна загінуў у аўтакатастрофе пры загадкавых абставінах.

SOS!



# Мора гора

Нядаўна ў азярцы каля мелавых гор ля ракі Нёман патанула 12-гадовая дзяўчынка. Паводле водгукаў настаўнікаў, выдатная вучаніца, добрая ва ўсіх сваіх учынках, сціплая, не па гадах разважлівая. І вось на табе — раптоўная смерць. Нават сястрычка, што была побач, пабаялася скокнуць у гэтую страшэнную сінюю ваду.

Бацькам гэтае здарэнне прынесла неперажывальнае гора, якое не забудзецца ніколі, смуга застанецца на ўсё астатняе жыццё. А гарадскім уладам хоць бы што: не забалела ні ў аднаго месцы. Не іх жа дзіця загінула.

І ў мінулым годзе тут патануў хлопец — з замежжа, і ў пазамінулым — дзяўчына. А ў вобласці толькі ў гэтым годзе каля 30 чалавек патанула ў не абсталяваных для купання месцах. Жахлівая карціна! Нейкае мора гора!

Што рабіць? Паставіць ратавальнікаў на кожным вадаёме, дзе купаюцца людзі. Узарваць крутыя берагі гэтых самаробных азёр, прарыць бульдозерам канавы, каб спусціць ваду. Можа, заваліць хмызняком вадзяную роўнядзь, каб не прыцягвала людзей. Паставіць шчыты з надпісам аб небяспецы і прыкладамі няшчасных выпадкаў. Калі мы ўратуем хоць адзін дзясятак жыццяў, гэта будзе добра.

У 2013 годзе ў Беларусі патанула каля 1000 чалавек. Гэта страшэнная лічба!

**Аляксей БУЦЬКО.**

*Гродна.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *«Як дасі цукерку, падпішу паперку»*

**На 5,5 года асуджаны намеснік старшыні Баранавіцкага гарвыканкама. Хабар ён браў... піражкамі, чабурэкамі, тартамі, цукеркамі, каньяком.**

*Як быў малым чыноўнік гэты,*
*Дык, мусібыць, яму бацькі*
*Давалі сала ды катлеты,*
*А на прыкуску — агуркі.*
*Цукеркі меў ён толькі ў свята,*
*На Новы год — і шакалад.*
*Лічылі, пэўна, мама й тата,*
*Што цукар для дзіцёнка — яд.*
*Падрос хлапчук.*
*Ён "пры партфелі".*
*"Цяпер, — рашыў, — наадварот:*
*Я насмакчуся карамелі*
*І піражкоў напхаю ў рот!"*
*Карупцыя — улады сябар.*
*Пра гэта ведаюць усе.*
*Вось і яму давалі хабар:*
*То той, то гэты паднясе.*
*Але падносілі няўдала —*
*Купюры соўгалі спярша.*
*Да грошай вельмі не ляжала*
*Таго чыноўніка душа.*
*Іх аддаваць патрэбна жонцы,*
*І разяўляюць дзеці рты.*
*А сам жа ён па завядзёнцы*
*Зноў будзе жыць без смакаты.*
*Таму нагамі і рукамі*
*Адпіхваў еўра і рублі.*
*"Падносчыкі"*
*У выканкаме*
*Даўмець нічога не маглі.*
*У сакратаркі нейк прасіцель*
*Спытаўся:*
*— Што за чалавек?*
*— Вы лепей шэфу прынясіце*
*Торт, піражок ці чабурэк, —*
*Дала параду маладзіца*
*З "паўнюткай пазухай цыцок". —*
*І апельсін-лімон згадзіцца*
*Закускаю пад каньячок.*
*Дык мецьмеце ад шэфа ласку...*
*І хоць спярша падняў на смех*
*Прасіцель гэтую падказку,*
*Ды ў краму ўсё-такі пабег.*
*Ажно патыліца ўспацела,*
*Калі ступаў у кабінет.*
*На столік ціха і нясмела*
*Паклаў ён пачак і пакет.*
*Адразу ж "шэф" разявіў зяпу,*
*Зірнуўшы грозна спадылба:*
*— Я не бяру зусім "на лапу"!*
*Не ведаў гэтага хіба?*
*Ужо спіна пакрыта потам,*
*І мутны, бы ў тумане, клёк...*
*"Шэф" палагоднеў раптам:*
*— Што там?*
*Якую трасцу прывалок?*
*— Зефір, пячэнне і цукеркі...*
*— Ну, гэта іншы каленкор!*
*І падпісаў усе паперкі,*
*Што той дзяцюк яму прыпёр.*
*Калі прайшло ўсё гэтак гладка —*
*І сакратарцы пахвала:*
*Як і зазвычай, шакаладка*
*Узнагародаю была.*
*Усе ўжо знаці без падказкі,*
*Як трэба "залаціць руку",*
*Што варта несці "для падмазкі"*
*Вялікаможнаму чынку.*
*Ватрушкі, пернікі, лікёры*
*Усе цягнулі ў кабінет.*
*(Хаця б падумаў з іх каторы,*
*Што чын падхопіць дыябет.)*
*Як ні зайдзі — ватрушка ў роце,*
*Не мог насыціцца ніяк.*
*Бесперапынна еў смакоцце*
*І ліў каньяк*
*Сабе ў гарляк.*
*І ў рэшце рэшт, яму на гора,*
*Сказаў наведвальнік адзін:*
*— Вам чабурэк ад пракурора.*
*А заўтра будзе ад суддзі...*

* * *

*Не трэба забываць ніколі,*
*Трымаць як ісціну наўме:*
*Салодка жыць хацеў на волі,*
*Дык горка будзе*
*У турме.*

«НЕПРИЧЕСАННОЕ» ПИСЬМО

# Разговор с женой брата

Встречаю жену брата Иру с дочкой и внуком. Они русские, живут в Минске. Ира имеет юридическое образование, работала нотариусом. Всегда была женщиной передовых взглядов, критически относилась ко всему. И в этом отношении она превосходила моего родного брата, который был в плену совковой идеологии.

Спрашиваю у Иры, как она оценивает последствия событий в Минске и в Украине. И вот ответ:

— Беларусь — не самостоятельное государство.

И в доказательство приводит такой пример. Мол, какое это государство, если Миллер из "Газпрома" сносит в Минске Московский автовокзал, за архитектуру которого присуждена Госпремия? И народ был против его сноса, но его вот-вот взорвут. В таком случае кто в Минске руководит? Конечно, не Лукашенко, а Москва. А Путин пока терпит Лукашенко и не присоединяет Беларусь к России, ибо ему нужен лишний голос в ООН. Это государство существует только на бумаге. Что Путин скажет, то и будет делать Лукашенко. У белорусов даже родной язык уже отняли.

Крым, по мнению Иры, присоединен к России правильно и справедливо. Так народ захотел. Даже украинцы, проживающие в Крыму, так захотели. Майдан в Киеве организовали американцы. Депутат Государственной думы Жириновский правильно предложил Польше, Венгрии и Румынии вместе с Россией поделить Украину.

— Ведь это уже мировая война, если такое будет происходить! — говорю я с возмущением своей собеседнице.

— А она уже идет, — отвечает Ирина.

— И кто ее развязал? Путин, который снабжает оружием Донбасс, — говорю я.

— Он возвращает Новороссию России. Ее Ленин отдал Украине, а вы, белорусы, заберите в Литве Вильню, которую Сталин подарил Литве.

— Ира, вы же юрист по образованию. Как вы можете такое говорить?! Вам российское телевидение столько лапши на уши навешало, что...

На этом наша встреча и родственная дружба закончились. Мы разошлись в разные стороны, не понимая один одного. Ирина хочет всю Украину и Беларусь вернуть в состав России. Под руководством "умного вождя В.Путина", который выступил собирателем российских земель. Это Хрущев и Горбачев все разбросали, а вот Путин соберет.

И таких людей, как Ирина, не пугают российско-чеченская и грузинско-российская войны. Для них и российско-украинская война вполне допустима, ибо не их дети воюют, не на их головы падают бомбы. Это где-то далеко, а не здесь.

Меня удивляет во всей этой истории российский шовинизм, который охватил даже русских, живущих в Беларуси.

В 1930-х годах в Германии так превозносили немецкую нацию, а в Советском Союзе — советский народ, которому все было по плечу: и Прибалтика, и Финляндия, и Китай, и Афганистан. Правда, Финляндия и Афганистан оказались для СССР не по зубам. Надеюсь, что не по зубах России будет и Украина.

Не хочу, чтобы меня обвинили в русофобии. Я служил в Советской Армии в России. У меня там живут дочь, сын и бывшая жена. Я уважаю всех здравомыслящих россиян. В целом русский народ не лучше и не хуже белорусов. И беды у русских и у белорусов одни и те же — плохое начальство, плохие политики, которые стравливают народы, доводя ситуацию до абсурда.

**Семен СТРУМЕНСКИЙ.**

*Минск.*

ПРИНЦИП

## *Внуку билет на поезд покупать не буду!*

В конце июля решил поехать в Могилев за внуком, чтобы на пару недель забрать его к себе в Кричев. Купил билет на дизель-поезд. Мне как пенсионеру его продали за полцены. Спрашиваю у проводниц: сколько будет стоить билет для внука, если ему уже больше 7 лет? "*Полный нужно покупать, дедушка!*" — отвечают они.

Я был удивлен и даже возмущен! Наверное, еще многие помнят прошлый век, когда за проезд детей от 7 до 14 лет в общественном транспорте мы платили полцены.

*"Тогда лучше мне дайте полный билет, а внуку — льготный по моему пенсионному"*, — говорю проводницам. Они с улыбкой отвечают: *"Белорусская железная дорога тут ни при чем. Это ж не мы такие законы принимаем, а депутаты. А для них этот вопрос может быть совсем не актуален — их дети и внуки на общественном транспорте наверняка не ездят. А о народе они вряд ли думают, у них совсем другие заботы. Да и не расходы это для депутатов и чиновников, чтобы о них задумываться"*.

Решил, что в следующий раз, когда буду ехать вместе с внуком, возьму только один билет — себе. А ему не буду, пусть едет зайцем. Если вдруг будут контролеры, скажу, что нет денег. И вот кого они будут штрафовать? Ребенка? По какому закону?..

Пенсионер ведь имеет хоть какие-то доходы, а ребенок? Разве он зарабатывает? И разве это правильный подход к жизни?

**С уважением —**

**Валерий БЫСОВ.**

*г.Кричев.*




РЕЗОНАНС

## *На нужное дело денег нет*

Прочитала статью "Не убивайте жен" Марины Коктыш. Проблема насилия в семье обсуждается не один год, а воз, как говорится, и ныне там. Потому что полумеры, оговоренные в Законе "О милиции", не дают нужного результата: насильника штрафуют, временно изолируют, а затем он вновь возвращается в семью, и все продолжается, как и было.

Знаю, что в некоторых странах есть закон о предотвращении насилия в семье, по которому жена и дети изолируются от мужа-деспота и помещаются для этого в специальные кризисные центры, где с ними работают врачи и психологи.

Во многих случаях подобные меры позволяют реально спасти людям жизнь.

Но... для создания подобных центров нужны, естественно, определенные средства, что невыгодно нашим чиновникам и депутатам, которые "тормозят" принятие нового закона. Оказывается, в нашем социально ориентированном государстве нет средств на такие учреждения, как хосписы и кризисные центры. Вот и приходится собирать деньги всем миром, и не известно, когда будет собрана нужная сумма. А проблема между тем не решается, хотя от нее никто не застрахован.

**Розалия РУБИНЧИК, пенсионерка.**

*Минск.*

ПЕРЕПИСКА

## *Если бы ваш муж наворовал миллионы долларов...*

Здравствуйте, уважаемая редакция газеты "Народная Воля"!

Прочитала в одном из номеров письмо-обращение жены бывшего главврача Костюковичской больницы Аллы Шилько к Александру Лукашенко и хочу через газету кое-что ей сказать.

Уважаемая госпожа Шилько!

Ваш "крик души" заслуживает всяческого доверия, он искренен и правдив. И я Вам так же искренне сочувствую в Вашем горе. Вместе с тем хочу заметить, что Ваша беда лишь одна из многих сотен, а может, и тысяч, сотворенных системой, созданной тем, к кому Вы обращаетесь. Системой, которая ни в грош не ставит ни закон, ни человека. Она игнорирует многие принципы современной цивилизации, не вписывается в кодекс общечеловеческих ценностей.

В этом смысле Ваше обращение меня несколько удивляет. Мол, бояре плохие, а царь хороший.

Вы спросите у А.Лукашенко, куда он смотрел, когда исчезали известные в стране люди, когда после последних президентских выборов в застенки были брошены сотни человек, вина которых так же недоказуема, как и в случае с вашим мужем.

Вдумайтесь, уважаемая Алла Шилько: если системе законом позволено под надуманным предлогом врываться к любому в жилье, перевернуть там все вверх дном, если позволено задержать человека на улице без достаточной причины, если можно превентивно, без всякой вины, десятки оппонентов власти изолировать от общества перед каким-либо грандиозным мероприятием, то на что можете рассчитывать Вы, если она, система, решила уничтожить Вашего мужа?

Если бы Ваш муж был чиновником и умудрился наворовать миллионы долларов, система нашла бы смягчающие обстоятельства и вместо статьи от 3 до 10 лет дала бы год-второй условно, а то и освободила бы совсем. Эти люди не опасны системе. Они внутри нее, они свои. А Ваш муж сунул палку в одно небольшое колесико — и система ему этого не могла простить.

Так куда власть будет смотреть — на одного бедолагу, незаконно страдающего, или на сохранение системы? Ответ очевиден.

**Г.С.БУРВАН, пенсионер.**

*г.Пинск.*

**P.S.** Возможно, в этом отдельном случае Ваш голос и будет услышан (я Вам этого искренне желаю) и Вы будете в какой-то мере удовлетворены. Но сотни и тысячи других система растопчет, перемелет и выбросит. И в этом наша общая беда.

ВОСТРЫ ПОГЛЯД

## *Каго ўшаноўваем? Тэрарыстаў, бандытаў?*




Днямі наведаў Брэст. Перад ад'ездам быў час спакойна пагуляць па тэрыторыі чыгуначнага вакзала, галоўныя будынкі якога рамантаваліся на працягу некалькіх гадоў. Праца і сродкі не пайшлі прахам — як быццам усё зроблена няблага, па-еўрапейску.

Здзівіўся аднаму — на сцяне цэнтральнага корпуса кінулася ў вочы мемарыяльная дошка з барэльефам У.І.Леніна. Прачытаў: у 1900 годзе, накіроўваючыся ў эміграцыю на Захад, ён праязджаў праз станцыю Брэст.

Ці ж гэта нагода для ўвекавечвання памяці міжнароднага тэрарыста? Так, так, тэрарыста і менавіта міжнароднага. Колькі крыві пралілося з-за яго! Рэвалюцыя, якую ён нахабна здзейсніў у Петраградзе за нямецкія грошы, адгукнулася вялікім горам не толькі ў Расіі. Колькі ахвяр прынесла яна нам, беларусам!

Здавалася б, доўгатэрміновы капітальны рамонт будынкаў чыгуначнай станцыі Брэст быў добрай нагодай, каб шыльду, якую некалі павесілі савецкія ўлады перад цэнтральным уваходам, больш ніколі не вяртаць на яе ранейшае месца, а адправіць у загашнікі для будучага музея, які, я ўпэўнены, будзе створаны спецыяльна для экспанатаў, звязаных з гісторыяй "чырвонага камунізму". Але брэсцкія ўладныя чыноўнікі і кіраўніцтва Беларускай чыгункі вырашылі па-свойму аддаць даніну павагі "правадыру сусветнага пралетарыяту". Маўляў, няхай маладое пакаленне ўсмоктвае памяць пра галоўнага натхняльніка рэвалюцый, пераваротаў з яго злачыннай бальшавіцкай сістэмай. Калі так, то ці не з'явяцца ў хуткім часе такія ж мемарыяльныя шыльды з барэльефам у Негарэлым, Барысаве, Оршы ды іншых населеных пунктах Беларусі, праз якія 114 гадоў таму праязджаў сусветна вядомы тэрарыст Валодзя Ульянаў-Ленін? А можа, яны там даўным-даўно вісяць?

**Васіль ГАЛАВАЧ, беларус.**

СПОВЕДЗЬ

# Мацярынскі праклён

У тое памятнае лета мы з жонкай Кацяй і дачушкамі-блізнятамі Рытай і Евай, якія перайшлі ў трэці клас, збіраліся ехаць у водпуск да майго брата. Віктар жыў у Гродне, і мы хацелі паказаць дзяўчынкам абласны горад, схадзіць у заапарк, у Тэатр лялек, ды ці мала яшчэ якія забавы знойдуцца ў горадзе для сельскіх дзяцей. Але здарылася так, што Каці, лічы, у апошні дзень водпуск не далі.

— Косця, едзь адзін, — прапанавала жонка. — А мы з дачушкамі паедзем у наступным годзе, бо мяне да зімы ў водпуск не пусцяць. Вельмі прасіў дырэктар саўгаса, каб папрацавала. Галоўны бухгалтар звольнілася, і я буду на яе месцы.

Я хацеў узяць дзяўчынак з сабой, але Каця не дазволіла.

— Баюся з табой адпускаць, — шчыра прызналася яна. — Вы там з братам і на рыбалку паедзеце, і ля Нёмана захочаце пазагараць. Ведаю я мужчынскі адпачынак: без чаркі не абыдзецеся.

Віктар быў старэйшы за мяне, але яшчэ не жанаты. Меў сваю кватэру, машыну, і я быў упэўнены, што мы з ім адпачнём як след.

У спякотны летні дзень паехалі на Нёман купацца і загараць. Калі я, паплаваўшы, выйшаў з вады, нечакана пачуў прыемны жаночы голас:

— Вы мне сонца засланяеце!

Павярнуў галаву і ўбачыў на кляцістай посцілцы маладую прыгожую жанчыну, загарэлую, чарнавокую, у ярка-зялёным купальніку.



— Вы і так ужо амаль пачарнелі, навошта больш сонца? — усміхнуўся я. — Калі скажаце сваё імя, то, так і быць, дапушчу яго да вас.

Начаваць я пайшоў да Зоі і правёў з ёй амаль увесь водпуск.

— Ці ты не здурнеў?! — ушчуваў мяне брат. — Дома такая слаўная жонка, дачушкі прыгожанькія і разумныя, а ты што робіш?!

— У нас усё сур'ёзна. Я звальнюся з працы і пераеду жыць да Зоі. У яе двухпакаёвая кватэра. Праўда, пяцігадовы сын ёсць, але гэта нічога.

— Сваіх дзяцей кінеш, а чужое пойдзеш гадаваць? Ты толькі падумай, што будзе з нашай мамай! Яна ж так любіць нявестку і ўнучак. Добра, што тата не дажыў да такой ганьбы...

Прыехаўшы дадому, я ўсё расказаў Каці. Яна не крычала, не сварылася, толькі вялікія сінія вочы, як азёры вадой, напаўняліся слязамі:

— А як жа я? Як дзеці? — пытала ў роспачы.

— Зразумей, як я магу з табой жыць, калі цябе не кахаю?! — даводзіў я сваё. — А дзеці што? Дзеці вырастуць. Я буду ім грошы прысылаць. Хочаш, на аліменты падавай. Дом няхай будзе табе, я нічога не стану забіраць.

— Як высакародна! — з горкай усмешкай прамовіла Каця.

Мая мама жыла праз вуліцу ад нас, і ёй я сказаў тое ж самае. Як жа яна плакала, як угаворвала мяне! За той час, пакуль я звальняўся з працы і падаваў на развод, яны абедзве аж пачарнелі ад гора.

— А што, я буду тут, у вёсцы, сваё жыццё марнаваць?! — крычаў я на мацярынскія просьбы адумацца, пашкадаваць сям'ю. — Я хачу жыць у горадзе, з каханай жанчынай. Шчаслівa хачу жыць!

— Не будзе табе шчасця, сын! Успомніш мяне некалі, ды позна. І Кацю ўспомніш, і дзяўчынак!

Нездарма людзі кажуць, што няма на свеце горшага праклёну, чым мацярынскі. Ён рэдка злятае з іхніх вуснаў, толькі ў хвіліны горкага адчаю. Вось і я давёў сваю няшчасную маму да такога адчаю.

Мы з Зояй жылі-пажывалі, дабро нажывалі. Я працаваў у дзвюх арганізацыях. Калі выпадаў водпуск, то ішоў людзям будаваць і рамантаваць дачы. Словам, за работай не бачыў свету. Усё для сваёй жоначкі і для яе Віталіка. Яны кожны год ездзілі на мора, Зоя купляла шыкоўныя ўборы. Але аднойчы... Я перабягаў вуліцу перад сваім домам і трапіў пад колы грузавіка. Не памятаю, як завезлі ў бальніцу, як дактары рабілі аперацыю... Паўгода праляжаў там і выйшаў інвалідам на двух падлакотных мыліцах.

Гэта проста дзіва, як памяняліся адносіны Зоі да мяне! У апошні час яна і ў бальніцу рэдка наведвалася, а забіраць дык і наогул не прыехала, прыйшлося выклікаць таксі. Вярнуўшыся, я ў роспачы пазваніў брату. Паскардзіўся.

— Забудзь мой нумар тэлефона і тое, што ў цябе быў брат! — пачуў у трубцы. — Мама з-за цябе на той свет пайшла! Года не пражыла пасля таго, як ты кінуў сям'ю. Ад дзяцей сваіх ды жонкі адрокся, а цяпер хочаш, каб я цябе пашкадаваў, паспагадаў табе?!

Пасля гэтых слоў ён кінуў трубку.

— Зоечка, мілая, — я ледзь не поўзаў перад ёй на каленях, каб зварыла есці, памыла вопратку. — Чаму ты стала такая чужая? Мы ж табой пражылі дзесяць гадоў! Я сына табе дапамог выгадаваць, ён меў усё, што хацеў...

— І што ты хочаш, каб я з 36 гадоў завязала сабе свет, жыла з бездапаможным калекам?! Я жыць хачу, а не быць каля цябе сядзелкай. Едзь туды, адкуль прыехаў. Маеш сваю Кацю, дочкі ж недзе ў цябе ёсць. Няхай і даглядаюць.

— Дык яны мяне не пазнаюць, дочкі, бо за дзесяць гадоў ні разу не бачылі! Капейкі ад мяне не мелі!

— Твае праблемы! І не дуры мне галаву!

— Віталічак, ты хоць за мяне заступіся! — са слязамі прасіў пасынка. — Я ж цябе гадаваў, усё для цябе стараўся.

— Адвянь! — злосна зыркнуў ён. — Застаўся без ног, то зараз і без рук застанешся!

Я сабраў вопратку, наняў таксі і паехаў у родную вёску. Быў летні адвячорак. Вяскоўцы вярталіся хто з поля, хто з сенажаці. Сарамеючыся глянуць ім у вочы, я папрасіў таксіста спыніцца ля Кацінага дома. На ганак выйшаў малады сівавaты мужчына ў спартыўным касцюме.

— Паклічце, калі ласка, Кацю, — папрасіў я.

— Няма Каці, яна па турыстычнай пуцёўцы паехала ў Іспанію. А вы хто?

— Я яе першы муж...

— Ну, а я другі. Калі хочаш ведаць пра дочак, то яны вучацца ва ўніверсітэце ў Мінску, цяпер праходзяць практыку ў Брэсце.

Мы нейкі час моўчкі глядзелі адзін на аднаго.

— Скруціла ж цябе, браток, — раптам са спачуваннем прамовіў мужчына. — Я так разумею, адправілі цябе на гістарычную радзіму, калі стаў калекам бездапаможным.

Я апусціў галаву. Што тут можна было сказаць?

— Вось што, — прамовіў Кацін муж. — Пажыві пакуль са мной. Я цяпер у водпуску, то падрамантую хату тваёй мамы і пяройдзеш туды, бо нам пад адной страхой будзе нязручна.

Іхняй міласцю, Каці ды Андрэя, я жыву пяты год. Ва ўсім яны мне дапамагаюць. А дочкі нават парог ніколі не пераступілі. Татам яны называюць Андрэя.

— А ўсё гэта мацярынскі праклён, — неяк кажу я яму, — дзеці родныя не прызнаюць...

— Кінь, не мацярынскі праклён, а твае дурасць ды эгаізм. Усё вяртаецца: ты іх кінуў у дзяцінстве, а яны цябе ў старасці.

**З пашанай —**

**Канстанцін Ігнатавіч.**

